Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
4 кастрычніка 2001 г.
№ 40 (536)
Кошт 120 рублёў

## Суд над ПАГОНЯЙ перанеслі з прычыны забыўчывасці пракурора

**27 верасня суддзя Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Валерый Жандараў прыняў рашэнне перанесці на 5 кастрычніка разгляд справы аб закрыцці ПАГОНІ.**

Прычынай пераносу стала непрадстаўленне спазысчыкам - Гарадзенскай абласной пракуратурай - усіх неабходных для разгляду справы дакументаў. Так, 27 жніўня пракуратура накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд спазысковую заяву ад імя Дзяржаўнага камітэта па друку «ў інтарэсах дзяржавы». Аднак за тры дні да пасяджэння пракуратура накіравала на адрас суда дадатковыя патрабаванні да спазысковай заявы. Копіі гэтых дакументаў не былі прадстаўленыя рэдакцыі ПАГОНІ, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства.

27 верасня ў судзе Дзяржаўны камітэт па друку, у асобе начальніка юрыдычнага аддзела Ліліі Богдан, заявіў, што адмаўляецца ад спазысковай заявы. Пры гэтым было падкрэслена, што «Дзяржкамітэт па друку не мае прававых падставаў для падтрымкі прад'яўленых пракуратурай спазысковых патрабаванняў».

«Калі суддзя прыме адмову Дзяржкамдруку, гэта азначае значнае аслабленне пазіцыяў пракуратуры», - лічыць кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў, які прадстаўляе ў судзе інтарэсы ПАГОНІ. Паводле яго слоў, гэта, аднак не гаворыць пра аўтаматычнае спыненне судовага працэсу, бо адпаведна дзеючаму беларускаму заканадаўству, пракуратура мае права самастойна падтрымліваць спазысковую заяву.

Галоўны рэдактар ПАГОНІ Мікола Маркевіч так выказаўся пасля прыняцця рашэння аб пераносе судовага працэсу: «Прэтэнзіі пракуратуры да ПАГОНІ не грунтуюцца на законе, маюць відавочныя прыкметы палітычнага заказу. Я ўпэўнены, што пры ўмове, калі на суд не будзе аказана ўціску, то спазыск пракуратуры будзе адхілены». Упэўненасць галоўнага рэдактара ў «палітычным заказе» дадзенай справы пацвярджаецца тым, што пасля заканчэння пасяджэння яго ўдзельнікаў і прадстаўнікоў прэсы здымаў на відэакамеру невядомы, які знаходзіўся на супрацьлеглым баку вуліцы ад будынка Вышэйшага гаспадарчага суда.

**Павал Мажэйка**

## Новае ў гарадзенскім Інтэрнеце

**З першага кастрычніка «Гроднааблтэлекам» ажыццяўляе новую паслугу інтэлектуальнай тэлефонна-камп'ютарнай сеткі сувязі - «Інтэрактыўнае апытанне».**

Як нам паведамілі ў аддзеле маркетынгу прадпрыемства, «Інтэрактыўнае апытанне» дазваляе праводзіць рознага кшталту маркетынгавыя даследаванні, тэлегаласаванні, апытанні, віктарыны ды іншыя сеансы інтэрактыўнай сувязі. Асноўны сродак доступу да вынікаў апытання ў рэальным часе - Інтэрнэт. Кошт новай паслугі для заказчыка - 100 тысяч рублёў за 10 хвілінаў.

**Алена Сіневіч**



**НАДВОР'Е**

**4-га кастрычніка** - воблачна, дождж; вецер паўднёва-заходні, 3-7 м/с; тэмпература паветра ўдзень +13...+17, уначы +14...+18. **5-га кастрычніка** - воблачна, без ападкаў; вецер паўднёва-заходні, 2-7 м/с; тэмпература паветра ўдзень +11...+13, уначы +8...+11.

# «Лукойл» просіць не турбавацца

Фота IREX Pro/Media



Сядзіба кампаніі «Лукойл-Беларусь» у Менску

**У мінулым нумары ПАГОНІ мы пісалі аб планах расейскай кампаніі «Лукойл» па набыцці самага буйнога гарадзенскага прадпрыемства «Азот». Нагадаем, што намер «Лукойла» выклікаў неадназначную рэакцыю ў работнікаў прадпрыемства. Непакой быў справакаваны адсутнасцю інфармацыі пра тое, што ж чакае працоўны калектыў у выпадку змены «Азотам» уласніка. Пра інфармаванне працоўных не паклапацілася ні ўлада, ні дырэкцыя прадпрыемства. З мэтай ліквідавання інфармацыйнага вакууму ПАГОНЯ звязалася з галоўным офісам «Лукойла» ў Маскве. Сітуацыю вакол магчымай прыватызацыі «Азота» ды іншых беларускіх прадпрыемстваў ветліва пагадзіўся пракаментаваць кіраўнік прэс-службы «Лукойла» Дзмітрый Далгоў.**

*- Вядома, што «Лукойл» цікавіцца гарадзенскім прадпрыемствам «Азот», але невядома, да якога рашэння вы прыйшлі.*

- Сапраўды, нашыя спецыялісты літаральна нядаўна ў чарговы раз прыязджалі ў Беларусь і вялі перамовы. Прычым прыязджалі не толькі «лукойлаўскія», але і прадстаўнікі іншых расейскіх кампаніяў. У прыватнасці, «Ітэра». На гэтых перамовах абмяркоўваліся магчымасці ўдзелу расейскіх нафтавых кампаніяў у праекце па развіцці нафтавай і нафтахімічнай прамысловасці Беларусі. Адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі «Азота», «Белнафтахіма», «Нафтана», «Паліміра» і «Хімвалакна». У выніку перамоваў была сфармавана рабочая група з прадстаўнікоў пералічаных кампаніяў і расейскіх інвестараў. Гэта рабочая група вывучае мажлівасці нашага ўдзелу ў праектах, звязаных з развіццём беларускіх прадпрыемстваў. Калі размова пра ацэнку гэтых прадпрыемстваў, то яны маюць у асноўным аналагічны асартымент, за выключэннем якраз «Азота», які вырабляе азотныя ўгнаенні ды капралактам. Але, паколькі наша кампанія ў апошнія некалькі гадоў актыўна займаецца нафтахіміяй, то, натуральна, мы зацікаўленыя ў сумесных праектах з «Азотам».

*- Візіт вашых спецыялістаў на «Азот» выклікаў неадназначную рэакцыю ў працоўным калектыве. Напрыклад, работнікі сацыяльнай сферы заклапочаныя тым, што «Лукойл», як прыватная кампанія, калі набудзе «Азот», дык адразу ад іх пазбавіцца.*

- Магу супакоіць паважаных супрацоўнікаў завода. Па-першае, яны хвалююцца дачасна. Па-другое, кампанія «Лукойл» у Расеі ўтрымлівае не проста нейкія сацыяльныя аб'екты, а цэлыя гарады ў Заходняй Сібіры і, з нядаўняга часу, у Рэспубліцы Комі. Скажам, горад Кагалым, гэта сталіца «Лукойла», пабудаваны і ўтрымліваецца на грошы кампаніі. Куды б ні прыходзіла кампанія, яна выконвае ўсе прынятыя раней сацыяльныя абавязацельствы і нікога нікуды не выкідвае. Па досведу працы «Лукойла» ў Расеі ды іншых краінах, магу сказаць, што паўсюль ствараецца прафсаюз работнікаў кампаніі «Лукойл». Усе прафсаюзныя арганізацыі ў Румыніі, Балгарыі, Комі, Азербайджане падпісваюць з кампаніяй калектыўную дамову, такую ж, як і нашыя прадпрыемствы на тэрыторыі Расеі.

*- На што могуць разлічваць работнікі «Азота», калі размова ідзе пра заробак? Сёння на гэтым прадпрыемстве заробак хіба што самы высокі ў Гродне.*

- Заробак не зменшыцца. Я даю вам 100-працэнтную гарантыю. Ён можа толькі расці.

*- Як Вы ацэньваеце перспектыву набыцця «Азота» з улікам зношанасці асноўных фондаў і таго, што вось ужо некалькі гадоў беларускі ўрад прымушае «Азот» прадаваць беларускім калгасам усе выробленыя ў першым паўгоддзі азотныя ўгнаенні ніжэй за іх сабекошт?*

- Наогул, калі беларускі ды расейскі бакі дамовяцца (бо з боку беларускага ўрада рашэнне наконт удзелу расейскіх кампаніяў у развіцці беларускіх прадпрыемстваў яшчэ не прынята), то наша кампанія гатовая ўкласці ў беларускі нафтахімічны комплекс каля мільярда даляраў. Натуральна, мы не займаемся дабрачыннасцю. Нас цікавяць прыбытковыя праекты. Аднак па меры магчымасці мы спрабуем забяспечыць патрэбы мясцовай, напрыклад, сельскай гаспадаркі. Але не ва ўрон сабе. Я думаю, што мы здолеем знайсці ўзаемапрымальныя рашэнні, як забяспечыць сельскую гаспадарку па нармальных коштах, не падрываючы эканоміку, і ў той жа час - працаваць так, каб не цярпець стратаў.

*- Ці будуць праводзіцца нейкія тэндэры па набыцці беларускіх прадпрыемстваў, хаця б паміж расейскімі кампаніямі, альбо дзейнічаюць дамоўленасці іншага кшталту?*

- Наколькі мне вядома, яшчэ не выпрацаваны механізм удзелу расейскіх кампаніяў у развіцці беларускіх прадпрыемстваў. З гэтым не вызначыўся пакуль беларускі бок.

**Гутарыў Анджэй Пісальнік**

## Візіт Вольгі Іпатавай

**Сёння ў Гродне гасцюе вядомая літаратарка, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.**

А 12-й гадзіне ў корпусе філалагічнага факультэта Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Вольга Іпатава сустрэнецца з мясцовымі студэнтамі ды выкладчыкамі. А 16-й гадзіне яна возьме ўдзел у справаздачна-выбарчым сходзе гарадзенскай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў. А 19-й гадзіне ў канцэртнай зале «Гродна» адбудзецца творчая вечарына Вольгі Іпатавай .

**Адам Гонар**

## Сувязь падаражэла

**З першага кастрычніка ў Беларусі да дзесяці адсоткаў выраслі тарыфы на паслугі тэлефоннай і паштовай сувязі.**

- Калі раней адпраўка звычайнага ліста па Беларусі каштавала 50 рублёў, то зараз вам трэба будзе заплаціць 55, а за паштоўку - 50 рублёў замест ранейшых 45, - тлумачыць ПАГОНІ начальніца аб'яднанага цэха паштовай сувязі Гарадзенскай аблпошты Марыя Кудзелка.

Адпраўка ліста да 20 грамаў у краіны СНД зараз каштуе 171 рубель, у краіны далёкага замежжа - 267 рублёў.

Што датычыцца тэлефоннай сувязі, то хвіліна перагавораў у межах аднаго населенага пункта абанентy будзе каштаваць ужо 2,8 рубля (замест 2,57), па вобласці - 8,25 (раней - 7,5). Тэлефанаванне ў другую вобласць абыдзецца жыхарам Беларусі ў 16,5 рубля (замест былых 15-ці). Адным словам, калі за гарадскія размовы вы плацілі ў месяц 2000 рублёў, то зараз гэта будзе каштаваць каля 2200 рублёў.

Тэлефонныя тарыфы для прадпрыемстваў і арганізацыяў падвысіліся, адпаведна, з 3,89 да 4,24 рубля, з 8,5 да 9,4 і з 17 да 18,8 рубля. Акрамя таго, для суб'ектаў гаспадарання адмяняецца штомесячнае прадастаўленне 60 хвілінаў бясплатных тэлефонных размоваў па мясцовай сувязі.

**Ул.інф.**

## Кірмаш прэзентуе «Еўрарэгіён»

**З 4-га па 6-е кастрычніка ў Палацы культуры хімікаў пройдзе чарговая, ужо трэцяя выстава-кірмаш «Еўрарэгіён Нёман-2001».**

Як нам паведамілі ў аддзеле знешнегандлёвых сувязяў аблвыканкама, удзельнічаць у выставе будуць каля 30 суб'ектаў гаспадарання з Беларусі ды Літвы. Польскі бок плануе даслаць сваю дэлегацыю для ўдзелу ў адкрыцці выставы-кірмашу. З беларускіх прадпрыемстваў у Гродна прыедуць госці з Менска і Полацка.

Падчас трохдзённай работы выставы вытворцы прэзентуюць новую прадукцыю - адзенне, прамысловае і сельскагаспадарчае абсталяванне, прадукты харчавання, аўдыё-, відэа- і фотатэхніку, мэблю ды іншае. Будзе паказ мод мадэльнага агенцтва «Юні-арт» і выступленні самадзейных калектываў.

Арганізацыяй выставы-кірмашу займецца выставачны цэнтр «Белэкспа» пры падтрымцы Гарадзенскага аблвыканкама.

**А.С.**

# У Гародні пачаўся суд над адным зь сяброў каманды Ганчарыка

**У Ленінскім судзе Гародні пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы Мікалая Саляніка. Ён быў даверанай асобай Уладзімера Ганчарыка. Яго абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу кандыдата на прэзыдэнта 30 жніўня.**

Мікалай Салянік патлумачыў у судзе, што ён падаў заяву, каб правесьці сустрэчу з выбарцамі на пляцы Леніна, а таксама яшчэ ў трох месцах. Затым такую ж заяву накіраваў і сам Уладзімер Ганчарык. Гарвыканкам даў адказ: ня можам аказаць садзеяньне і даць згоду.

У Ленінскай раённай выбарчай камісіі адказалі болей канкрэтна: «Адмовіць. Сустрэчы праводзіць толькі ў памяшканьнях». Даверанай асобе выдалі пры гэтым складзены камісіяй графік сустрэчаў з кандыдатамі. Графік гэты ня быў ні з кім узгоднены і не зацьверджаны. Паводле яго Ўладзімер Ганчарык павінен быў 30 жніўня сустрэцца з выбарцамі ў невялікай зале кінатэатра імя А.С.Пушкіна.

Уладзімер Ганчарык вырашыў размаўляць зь людзьмі там, дзе яны зьбяруцца самі. У кінатэатры нікога не было. А на пляцы сабралася некалькі тысяч чалавек. Там і адбылася сустрэча.

У суд не прыйшлі міліцыянты, што складалі пратакол. Таму разбор справы перанеслі на заўтра.

У сераду вышэйзгаданыя міліцыянты, нарэшце, далі паказанні.

Прысуд суддзя Дзмітрый Дземчанка абвесціць у пятніцу.

**Сяргей Астравец, Радыё Свабода**



**Генадзь Навіцкі, як і на гэтым здымку, заўсёды быў неяк на заднім плане. Аднак абыйшоў многіх. Сёння ён прэм`ер-міністр урада Беларусі**

# Як змагаліся хрэн з рэдзькай

**Напярэдадні выбараў прэзідэнта Зянон Пазьняк выказаў сваё перакананне: галасаваць трэба супраць абодвух кандыдатаў. Вынікі прэзідэнцкай кампаніі паказалі, што Пазьняк меў пэўную рацыю. Пры ўсіх фальсіфікацыях вынікаў, пры ўсім супрацьдзеянні «вертыкалі» ды спецслужбаў, апазіцыя магла выбары калі не выйграць, то не прайграць з такімі ганебнымі суадносінамі - 75 працэнтаў і 15 працэнтаў галасоў на карысць Аляксандра Лукашэнкі.**

Перамога А.Лукашэнкі сведчыць пра тое, што грамадства Беларусі апынулася ў прынцыпова новых умовах. Апынулася ўжо даўно, але гэтага не заўважыла апазіцыя і яшчэ не цалкам усвядоміла ўлада. Каб зразумець сутнасць зрухаў у беларускім грамадстве, трэба найперш адказаць на пытанне, чаму А.Лукашэнку працягвае падтрымліваць значная колькасць выбаршчыкаў. Бо ніякія фальсіфікацыі не былі б магчымыя, калі б А.Лукашэнка не абапіраўся на рэальныя сацыяльныя сілы. Адказ вельмі просты. Электарат не давярае апазіцыі. Камусьці гэта цяжка прызнаць, хтосьці паспеў адчуць сябе змагаром за светлую будучыню беларускага народа, а некага гэта цалкам задавальняе, бо пасля выбараў зноў можна будзе падаваць заявы на гранты «дзеля развіцця дэмакратычных інстытутаў» у краіне.

А чаму не давярае? Бо апазіцыя і яе лідары не зрабілі нічога істотнага для зацвярджання сваёй самавітасці, нічога стваральнага. Адзіным дасягненнем можна лічыць існаванне няўрадавай прэсы, але апазіцыя да гэтага дачынення амаль не мае. Мітынгі, дэманстрацыі ды пікеты - гэта выдатна, але толькі як дадатак да агульнай стваральнай кампаніі. Інакей масавыя акцыі ператвараюцца ў мэту саму па сабе, у не вельмі папулярнае шоу з абрыдлымі акцёрамі і дакучлівымі прадзюсерамі. Карацей, дэманстрацыю ў рот не пакладзеш. Ну, прыйдзе апазіцыя да ўлады, і што - пагоніць усіх на мітынгі ды шэсці?

Яшчэ адно пытанне - а каму давяраць? Састарэлай партнаменклатуры, якую адхілілі ад кармушкі? Былым паплечнікам А.Лукашэнкі, выгнаным з прычыны прафесійнай нядатнасці? Палітыкам-аматарам, якія маюць цьмянае ўяўленне пра тое, як працуе дзяржаўны механізм і як трэба кіраваць краінай? Дзеячам, якія мелі дзяржаўную ўладу, але бяздарна аддалі яе гэбэшным палкоўнікам, якія пад носам спляці супраць іх змову? Пазёрам, пустазвонам, імітатарам і правакатарам, засланым у апазіцыю спецслужбамі. Грантасмокам, якія ў карысных мэтах вывучылі дзесятак словаў з ліберальнага лексікону? Словам, ёсць важкія падставы турбавацца пра тое, ці будуць яны плаціць пенсіі, заробак, змагацца са злачыннасцю і карупцыяй.

Нарэшце, а чаму змаглі здзейсніцца шматлікія фальсіфікацыі, чаму пайшлі на гэта чыноўнікі ды члены выбарчых камісіяў? Хтосьці не хацеў псаваць кар'еру. Але асноўная маса не разглядала выбар паміж Лукашэнкам і Ганчарыкам як нешта такое, што кардынальным чынам зменіць іх жыццё ў лепшы бок. Аддамо належнае Зянону Пазьняку - ён правільна ўгледзеў гэтую сітуацыю даўно і зрабіў неаспрэчныя высновы. Як гаворыцца, канкурэнцыя хрэна з рэдзькай.

Калі верна тое, што народ заслугоўвае таго ўрада, які мае, то верна і тое, што народ заслугоўвае той апазіцыі, якая існуе. Калі грамадства не мае ўяўлення, куды ісці, то не мае ўяўлення пра гэта ні ўлада, ні апазіцыя. У такіх умовах часовую перавагу маюць ілжывыя прарокі ды авантурысты. Але праходзіць час, і з'яўляецца сапраўдны лідар, які ўвасабляе чаканні народа і служыць яму ўзорам.

**Давядзецца чакаць.**
**Сяргей Самасей**

# Маладафронтаўцы чысцяць горад

**30 верасня сябры гарадзенскага Маладога Фронту прыбралі частку парку імя Жылібера ад вуліцы Ажэшкі да Лялечнага тэатра і збіраюцца наступным разам пачысціць астатнюю частку парку.**

Гэты старажытны парк, закладзены яшчэ ў XVIII стагоддзі, знаходзіцца ў цэнтры Гродна, аднак страшэнна занядбаны.

- Гарадскія ўлады не сочаць за яго чысцінёй, як фактычна і за чысцінёй усяго горада. У адрозненне ад іх маладафронтаўцы любяць горад, у якім жывуць, і будуць клапаціцца пра яго, пакуль гэтым не стануць займацца тыя, каму гэта рабіць належыць, - гаворыць старшыня гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту Вадзім Саранчукоў.

Адміністрацыя парку, паводле словаў Вадзіма Саранчукова, даволі прыязна паставілася да іх і нават дапамагла інвентаром.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Верш на Свабоду

**Нас абрубілі на высокай ноце,**
**і мы цяперака знаходзімся**
**ў цэйтноце,**
**як мухі п'яныя**
**на тлустым бегемоце,**
**ці як жарынкі**
**на патухлым кноце.**

**Мы ўсё жыццё**
**чакаем новых цудаў,**
**жытло шыкоўнае**
**будуем для прыблудаў**
**і молімся штодня на чэрап юдаў,**
**гукаючы:**
**«Няхай жыве краіна хлудаў!»**

**Не дачакацца нам ніколі**
**дабрадзея!**
**Калі ня ўздымемся,**
**дык ў скрусе пасівеем.**
**Давайце ж станем**
**мастакамі дзеі,**
**пакуль у сэрцах яшчэ**
**паліцца надзея!**

**Гвалтаўнікі,**
**што чыняць перашкоды,**
**уласнаручна знішчаць**
**свае стоды,**
**пасьля патрапяць**
**пад абцасы моды.**
**А мы адчуем**
**корсткі смак свабоды!**

**Юры Гумянюк**

# Крымінальнай справы супраць «Ратушы» не будзе

**У сераду ў другой палове дня Аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (АБЭЗ) павінен быў распаўсюдзіць Пастанову аб адмове ў распачацці крымінальнай справы ў дачыненні да грамадскага аб'яднання «Ратуша». Такое рашэнне было прынята ў выніку правядзення 10-дзённай дадатковай праверкі дзейнасці «Ратушы».**

У тэлефоннай размове з ПАГОНЯЙ оперупаўнаважаны АБЭЗ Сяргей Буча паведаміў, што асабіста ён «не бачыць падставаў для распачынання крымінальнай справы супраць «Ратушы».

У пачатку верасня АБЭЗ ужо выносіў Пастанову аб адмове распачынання крымінальнай справы. Аднак 20 верасня абласная пракуратура адмяніла Пастанову АБЭЗ і накіравала матэрыялы на дадатковую праверку.

Нагадаем, што яшчэ 10 жніўня, у выніку праверкі Дзяржкантролю, супрацоўнікі АБЭЗ арыштавалі ў «Ратушы» ўсю кампутарную тэхніку.

**Павал Мажэйка**

# «Беларусбанк» рыхтуецца да пераходу на расейскія рублі?

**Упершыню беларускія банкі пачалі патрабаваць ад кліентаў указваць у плацежных дакументах не проста рублі, а беларускія рублі.**

Напрыклад, у аддзяленні «Белсувязь» буйнейшага «Беларусбанка» пакінулі прымаць плацежкі, калі ў іх не ўказана «беларускія рублі». Паводле словаў супрацоўніцы банка, гэта звязана з патрабаваннем вышэйшых інстанцыяў - калі дагэтуль дапускалася пісаць проста «рублі», то цяпер гэта забаронена.

**Юрась Свірко**

## ПОШТА

# «Цяпер я буду заўсёды чытаць ПАГОНЮ!

Піша вам навучэнец Ваўкавыскага тэхнікума эканомікі і права. Днямі ўпершыню купіў вашу газету. Не ведаю, чаму раней яе не заўважаў. Па-першае, выказваю вялікую падзяку галоўнаму рэдактару Міколу Маркевічу за тое, што ў яго працуюць людзі гонару і сумлення. Газета змагла пераадолець усе паскудствы, падсунутыя вертыкальнай уладай. І я згодзен з вамі, што нашыя «так званыя праваахоўныя органы, якія спрабуюць заткнуць вам рот, - гэта ўсяго выканаўцы палітычнай замовы».

Я вельмі спачуваю лідару гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту Вадзіму Саранчукову. Я таксама вучуся на юрыста (на 2-ім курсе), але ў тэхнікуме. Дык вось, на занятках канстытуцыйнага права я ўжо паспеў пагартаць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, дзе ў артыкуле 33 запісана: «Кожнаму гарантуецца свабода думак, перакананняў ды іх свабоднае выяўленне. Ніхто не можа быць прымушаны да выяўлення сваіх перакананняў ці адмовы ад іх...». Здаецца мне, што выпадак з Саранчуковым - гэта прамое парушэнне нашай Канстытуцыі. Аднак гэта рэальнасць Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. І мне падаецца, што Вадзіму Саранчукову трэба звярнуцца ў суд Рэспублікі Беларусь.

Чаму дазваляецца пісаць і гаварыць усё, што хочацца, напрыклад, розным «зімоўскім, новікавым» і «Советской Белоруссии»? Можна з такой жа лёгкасцю сказаць ці напісаць, што яны нібыта гавораць у перадачах і пішуць у газетах паклёп на апазіцыю.

Амаль цалкам я згодны з Сакратам Яновічам. На маю думку, ён з'яўляецца праўдзівым класікам.

Цяпер я буду заўжды чытаць і ПАГОНЮ. Хаця я чытаю іншыя праўдзівыя газеты - «Народная Воля», «Згода», «Дзень», - ваша папашырыць мой кругагляд. Мне хочацца ўступіць у БНФ, але я не ведаю куды звярнуцца. І яшчэ мне б вельмі хацелася наладзіць сувязь з Сакратам Яновічам. Дапамажыце, калі ласка.

Жадаю ПАГОНІ творчых поспехаў!

**Дзмітрый Целеш, ваш новы чытач**

# Што ўладзе патрэбна ад ПАГОНІ?

Хачу падзяліцца думкамі у сувязі з тым, што ўлада так апантана знішчае ПАГОНЮ. Чаму так адбываецца?

Вядома, што кожная дыктатура стараецца ліквідаваць апазіцыю. Апазіцыя заўсёды кажа праўду. А халуі, падхалімы, шпікі заўжды хлусяць і перахвальваюць свайго хлебадаўцу.

Але што гэта за дзяржава, калі ў ёй няма апазіцыі? У Гітлера і Сталіна не было апазіцыі. І што з імі здарылася?

Гітлер давёў Германію да катастрофы, пасля чаго прыняў атруту і выстраліў сабе ў галаву.

Сталін, адчуваючы віну за свае злачынствы, жыў за сценамі Крамля ў пастаянным страху да усіх і ўсяго да скону. Але хто ведае, як скончыў ён сваё жыццё? Яго нашчадкі ўсё ўтаілі і самі ішлі па яго слядах, але куды яны дайшлі? Да сваёй гібелі, да развалу СССР і гібелі сусветнага камунізму.

Усіх, хто жыве ў атмасферы бандытызму, ілжы ды несправядлівасці, чакае вечная ганьба.

Беларусь будзе вольнай, незалежнай і дэмакратычнай!

**Вацлаў Іваноўскі, сталы чытач ПАГОНІ**

## Нацбанк плануе акругляць кошты

**Ужо ў гэтым годзе варта чакаць акруглення ўсіх коштаў да нуля і вывядзення з абароту дробных купюраў наміналам адзін і пяць рублёў, паведаміла крыніца ў Нацыянальным банку Беларусі.**

Адпаведна словам крыніцы, адразу пасля інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі з яго адміністрацыі ў Нацбанк паступіла ўказанне падрыхтаваць пастанову аб акругленні ўжо з першага кастрычніка ўсіх коштаў - каб яны заканчваліся на нуль.

Аднак спецыялісты Нацбанка лічаць, што акругліць кошты у такі кароткі тэрмін немагчыма.

Хутчэй за ўсё, «абнуленне» коштаў адбудзецца толькі з першага студзеня 2002 года. З гэтай жа даты плануецца забараніць хаджэнне банкнотаў вартасцю адзін і пяць рублёў (з выявай Акадэміі навук і Траецкага прадмесця), хаця прымаць іх на абмен будуць яшчэ на працягу некаторага часу наступнага года.

Юрась Свірко

## «Запусцілі» яшчэ адзін завод

**На ашмянскім заводзе «Радыётэхніка» не выключаюць, што іх прадпрыемства напрыканцы кастрычніка можа спыніць сваю працу, а звыш 400 рабочых пойдуць у бестэрміновы адпачынак. Крызіснае становішча на заводзе склалася з-за вялікай запазычанасці за энерганосьбіты.**

Апошні трывожны званок прагучаў першага кастрычніка, калі раніцай у 11 гадзін энергетыкі паведамілі рабочым, што вымушаныя адключыць завод за няўплату.

Пра магчымае адключэнне заводу, як распавёў ПАГОНІ Іван Амбражэвіч, старшыня прафкама «Радыётэхнікі», рабочыя былі папярэджаныя яшчэ за тыдзень.

Пятнічны страйк рабочых на Менскім трактарным заводзе фактычна паставіў «Радыётэхніку» на калені. Існавала дамоўленасць, што МТЗ, пастаўшчыком якога з'яўляецца ашмянскае прадпрыемства, выдасць «Радыётэхніцы» вэксаль на 50 мільёнаў рублёў. Але, у сувязі са страйкам, кіраўніцтва МТЗ накіравала ўсе грошы на пагашэнне завінавачанасці па заробках сваім рабочым.

У аўторак, калі мы размаўлялі па тэлефоне з Іванам Амбражэвічам, на заводзе знаходзілася падатковая інспекцыя, якая, адпаведна словам спадара Амбражэвіча, выявіла 100-мільённую запазычанасць па падатках.

- Сітуацыя ўскладняецца з кожным днём, - адзначыў Іван Амбражэвіч. - Нягледзячы на тое, што праплаты за электраэнергію пайшлі, ніякай упэўненасці ў рабочых на заводзе няма. Да канца кастрычніка можа наспець такое становішча, што завод спыніцца. Ужо сёння няма неабходных матэрыялаў, камплектуючых для працы. А калі нешта і ёсць, дык у малых колькасцях. Усе праблемы ад безграшоўя.

Іван Амбражэвіч назваў яшчэ адну прычыну, што прывяла да крызісу на заводзе.

Паводле ягоных словаў, завод павінен штодзень высылаць па 30-40 чалавек на працу ў калгас. А дырэктар завода раніцай кожнага дня дае справаздачу старшыні Ашмянскага райвыканкама пра ход уборкі ўраджаю.

Павал Мажэйка

## Купі білетаў пачак - атрымаеш тачку

**- З першага кастрычніка распачаўся продаж новай латарэі «Гарадніца-2», білет якой каштуе 1500 рублёў. А розыгрыш адбудзецца 26 студзеня 2002 года, - пра гэта паведаміў карэспандэнту ПАГОНІ Васіль Пірожнік, дырэктар прадпрыемства «Гродналатарэя».**

Напярэдадні - 22 верасня - адбыўся розыгрыш першай абласной грашова-рэчавай латарэі «Гарадніца-1». Мерапрыемства праходзіла ў гарадзенскім Палацы культуры тэкстыльшчыкаў.

Было разыграна 2500 рэчавых і грашовых прызоў. Мінімальны выйгрыш склаў 3 тысячы рублёў, а самымі максімальнымі сталі: двухпакаёвая кватэра ў новым доме па вуліцы Ліможа, легкавы аўтамабіль і адзін мільён рублёў.

Алесь Зарэмбюк

## Дазволена застрэліць 250 казуляў

**Сёння распачаўся сезон палявання на ласёў, аленяў, дзікоў, казуляў. Парадаксальна, што чацвёртага ж кастрычніка сусветная супольнасць адзначае Дзень абароны жывёлаў. Адстрэльваць капытных можна будзе да 30 лістапада па чацвяргах, пятніцах, выходных і святочных днях.**

Колькасць капытных, якія могуць быць забітыя, абмежаваная - Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродку кантралюе папуляцыі лясных жывёлаў. У гэтым годзе на Гарадзеншчыне дазволена адстрэліць 12 ласёў, 21 аленя, 250 дзікоў і 250 казуляў. У Гарадзенскім раёне, аднак, нельга будзе паляваць на аленяў і ласёў - іх колькасць меншая за дзве галавы на тысячу гектараў, што ніжэй за норму. Задавальненне забіваць жывёлаў - не дармовае. За «пуцёўку» (дакумент, які дазваляе паляваць у лесе) паляўнічы мусіць выкласці каля 20 тысяч рублёў. Праўда, для вайскоўцаў і сябраў «таварыства паляўнічых і рыбаловаў» прадугледжаныя зніжкі - кошт удзелу ў адным паляванні вагаецца ад трох да васьмі тысяч рублёў. Ёсць адмысловыя ільготы для пенсіянераў і ветэранаў.

За кожную забітую жывёліну таксама трэба плаціць. Жыццё казулі, напрыклад, «ацанілі» ў 18 тысяч, а дзіка - ад 26 да 85 з палавай тысяч рублёў, у залежнасці ад вагі жывёлы.

Замежнікі, якія прыязджаюць паляваць на Гарадзеншчыну, забіваюць жывёлаў выключна дзеля трафеяў - рагоў, скуры, іклаў і чарапоў, бо мяса забітых жывёлаў не дазволена вывозіць з Беларусі. Трафеі каштуюць нямала (рогі, напрыклад, ад 500 марак). Але, нягледзячы на гэта, паляваць у нашыя лясы часцяком прыязджаюць нават з Нямеччыны, Італіі ды Бельгіі.

У гарадзенскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» налічваецца каля паўтары тысячы сябраў. Таму далёка не кожны паляўнічы можа паўдзельнічаць у паляванні на капытных.

- Права застрэліць казулю ці лася атрымалі толькі тыя паляўнічыя, якія зрабілі ўнёсак у дзейнасць нашага таварыства: хто ўзімку будаваў кармушкі для жывёлаў, хто плённа змагаўся з браканьерамі, - гаворыць Генрых Занеўскі, паляўнічтвазнавец таварыства.

Іншым аматарам забіваць жывёлаў давядзецца задаволіцца паляваннем на зайцоў, вавёрак ды бабрoў.

Юлія Дарашкевіч

## Курс ранейшы, метады тыя самыя

**Напрыканцы мінулага тыдня адбылася сесія гарсавета. На парадку дня было два пытанні. Спачатку справаздача аб рабоце выканаўчай улады горада за мінулыя месяцы бягучага года, потым пытанне наконт сацыяльнай абароны грамадзянаў горада Гродна.**

### Пытанне першае

Ад выканаўчай улады з ім выступіла намесніца старшыні гарадской адміністрацыі Валянціна Лаўцаль. Яе даклад не меў аналізу і быў падобным хутчэй на статыстычную справаздачу. Затое ён ахапіў усе сферы жыцця горада, у тым ліку і палітыка-ідэалагічную. Як і ўсе апошнія некалькі гадоў, наша жыццё, зыходзячы са сказанага спадарыняй Лаўцаль, нязыхільна паляпшаецца. Вытворчасці вырабляюць прадукцыю, транспарт перавыконвае паказчыкі, удалося зрабіць рывок у будаўніцтве. Дзякуючы таму, што грамадзяне атрымалі «важкую дзяржаўную падтрымку», у мінулым 2000 годзе здадзена 140,8 тысячы квадратных метраў жылля. Горад атрымаў у бягучым годзе 12 новых аўтобусаў і чатыры тралейбусы. Насельніцтва тэлефанізуецца. Чарга ахвотных устанавіць гэты від сувязі ў горадзе крыху болей за 4000 чалавек. Калі нехта думае, што гэта шмат, таму спадарыня Лаўцаль нагадае, што пяць гадоў таму такіх было 20 000. Далей дакладчыца засмуціла прысутных тым, што рэнтабельнасць у гандлі чамусьці ўсяго толькі трохі больш як адзін працэнт. А потым узрадавала: 95 працэнтаў усяго гарадскога жылога фонду падрыхтавана да зімы.

У раздзеле, прысвечаным дасягненням у медыцыне, было сказана літаральна наступнае: «Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, медычнае абслугоўванне грамадзянаў не пагоршылася». А нараджальнасць у Гродне (у адзіным горадзе Беларусі, паводле словаў спадарыні Лаўцаль) перасягае смяротнасць. Задаволеная выканаўчая ўлада горада і выкананнем планаў па сярэдняй зарплаце. Яна ў нас, як выявілася, «у асноўным даведзена да 100 даляраў». Пры гэтым у прамысловасці заробак складае 124 даляры, на транспарце - 127, а ў будаўніцтве - 128 даляраў (натуральна, у эквіваленце). Усё ў парадку і з грамадска-палітычным жыццём. Валянціна Аляксандраўна канстатавала, што ў гэтым плане ў горадзе пануе «мір і сацыяльная трываласць». Але гэта, адпаведна яе словам, «не азначае, што гарадзенцы апалітычныя». У якасці аргументу палітызаванасці была прыведзена лічба зарэгістраваных грамадскіх арганізацыяў - больш як 100, што, паводле меркаванняў спадарыні Лаўцаль, і «дэманструе актыўнасць гараджанаў ды абарону сваёй пазіцыі». Дарэчы, пра пазіцыю: свой даклад Валянціна Лаўцаль завяршыла выказваннем глыбокай задаволенасці вынікамі галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, калі за Аляксандра Лукашэнку аддалі свае галасы 57 працэнтаў выбаршчыкаў горада Гродна.

### Пытанне другое

Пра тое, што робіць гарвыканкам у плане сацыяльнай дапамогі гаротным, журботна і пранікліва расказаў дэпутатам другі намеснік старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Яўген Жабрун. Як заведзена, у пачатку выступлення, ён запэўніў прысутных у тым, што, «нягледзячы на фінансавыя складанасці, гарадская праграма «Клопат» выконваецца». 607 адзінокіх і састарэлых людзей замацаваныя за 163 прадпрыемствамі, 1468 гараджанаў у бягучым годзе атрымалі 80 мільёнаў рублёў матэрыяльнай дапамогі, 689 чалавек абслугоўваюцца на даму. Нягледзячы на ўсе гэтыя лічбы, аптымізмам даклад спадара Жабруна не вылучаўся.

- Наш горад старэе, - з горыччу заўважыў Яўген Мікалаевіч, - у нас болей за 60 тысяч пенсіянераў (праўда, сярод іх і тых, каго ў старыя запісваць рана - былыя міліцыянты, вайскоўцы ды іншыя - **заўвага аўт.**), гэта значыць, кожны пяты жыхар Гродна. І амаль тры тысячы старых, якім больш як 80 гадоў.

Расце колькасць сацыяльных сіротаў, не скарачаецца колькасць бамжоў і беспрацоўных. І пры гэтым фінансаванне ўвесь час змяншаецца. «Вось галоўная праблема», - канстатаваў спадар Жабрун. З-за гэтага не вырашаецца пытанне са стварэннем Цэнтра дапамогі пажылым, адкрыццём так званых «сацыяльных ложкаў» у шпіталях. Тым не менш «вертыкаль» нястомна працуе над гэтым. І для людзей у гадах ужо створаны новыя праграмы.

### Дзе ўзяць грошы?

Гэтае пытанне чырвонай ніткай праходзіла праз усе выступленні сесіі. Але больш, чым прыняць адсутнасць сродкаў у гарадскім бюджэце як непазбежную данасць, кіраўнікі горада нічога прапанаваць не здолелі. Хаця, не, яшчэ штосьці: традыцыйны зварот да грамадзянаў (напрыклад, да бацькоў у школах) дапамагчы грашыма на рамонт ці абсталяванне, і да прадпрыемстваў, калі патрэбныя сродкі на сацыяльныя праграмы.

- Давайце дзейнічаць разам, - заклікаў дэпутатаў старшыня Фёдар Гудзей, - не адзін жа я разам з выканкамам *(жэст у бок Анатоля Кунаша, што сядзіць побач, выконваючага абавязкі старшыні гарвыканкама)* буду хадзіць у аблвыканкам і выбіваць фінансаванне. Давайце падключымся да дырэктараў (школаў - **заўвага аўт.**), а яны няхай да бацькоў. У нас і крутых нямала. Рамонт дахаў не пацягнем, ну хоць свяцільні купім. Давайце ўлічваць існуючую сітуацыю.

Між тым, як заўважыў у сваім выступленні Яўген Жабрун, «некаторыя прадпрыемствы не заўсёды ідуць насустрач просьбам гарвыканкама» і не выдаткоўваюць грошай на праграмы. Маўляў, нейкія яны не спагадлівыя.

Сесія доўжылася менш як дзве гадзіны. Дэпутаты дружна прагаласавалі «за». Дэбатаў практычна не было. Гарвыканкамаўскія чыноўнікі, якія ажыўлена «базарылі» на галёрцы канферэнцзалы ўвесь час пра нешта сваё, імгненна пакінулі гэтую абавязалаўку. Не прагучала на тым высокім сходзе ніводнай колькі-небудзь канструктыўнай прапановы адносна павелічэння паступленняў у гарадскі бюджэт ні ад прадстаўнікоў заканадаўчай, ні ад выканаўчай улады. У старых традыцыях, Старшыня савета Фёдар Гудзей толькі заклікаў кожнага з «вертыкальшчыкаў» добрасумленна працаваць на сваёй пасадзе, і тады ўсё ў нас будзе выраблішца, павялічвацца і паляпшацца.

Ніна Палуцкая

## У Менску спыніў працу трактарны завод

**Прастой прадпрыемства зьвязаны з вытворчым крызісам.**

Адміністрацыя абвесьціла на МТЗ вымушаны двухдзённы перапынак. Як патлумачылі рабочым, гэта выклікана вытворчымі праблемамі. Паводле вэрсіі кіраўніцтва, на заводзе дэфіцыт камплектных дэталяў. За два дні гэты дэфіцыт абяцалі зьліквідаваць і аднавіць вытворчасьць.

У рабочых дзеяньні начальства выклікалі пратэсту. Учора на прадпрыемстве скончылі выдачу жнівеньскіх заробкаў. З гэтай прычыны, як вынікае з тлумачэньняў трактаразаводцаў, у іх зараз няма падставаў для незадавальненьня. Аднак, паводле прафсаюзных зьвестак, ужо праз некалькі тыдняў на МТЗ магчымыя новыя стыхійныя выступы, выкліканыя новымі затрымкамі заробкаў.

Як лічыць старшыня Свабоднага прафсаюзу Вячаслаў Козел, на МТЗ цяпер востры дэфіцыт абаротных сродкаў. І таму з выплатай верасьнёўскага заробку 22 тысячам работнікаў прадпрыемства зноў могуць узьнікнуць складанасьці. У адпаведнасьці з калектыўнай дамовай, адміністрацыя ўжо на наступным тыдні мусіць выплаціць рабочым аванс.

- Адміністрацыя трактарнага заводу гэтых законаў не выконвае. Вось чаму людзі выйшлі на рэйкі. Два разы на месяц абавязаныя выдаваць заробкі па закону, - мяркуе Вячаслаў Козел.

Міхал Стэльмак, Менск




Напрыканцы верасня рабочыя трактарнага завода «выйблі» з адміністрацыі заробленае. Цяпер гэтым людзям не даюць зарабляць...

СУМЕЖЖА

# Што думаюць расіяне пра беларусаў, а таксама ўкраінцаў

**Апошнія даследаванні Усерасейскага цэнтра вывучэння грамадскай думкі (УЦВГД) паказалі, што паінфармаванасць расіянаў пра падзеі ў Беларусі невысокая. Толькі чвэрць апытаных уважліва сочыць за імі, 48 працэнтаў робяць гэта без асаблівай увагі, 24 працэнты зусім не сочаць.**

Паводле меркавання сацыёлагаў, пры такім уроне дасведчанасці самастойна разбірацца ў сітуацыі цяжка. Тым не менш на пытанне «Што было б лепей для Расеі: перамога на выбарах Аляксандра Лукашэнкі ці кандыдата ад апазіцыі?» 49 працэнтаў апытаных супраць 12 аддалі перавагу выбранню на другі тэрмін сённяшняга кіраўніка дзяржавы.

- Раней у нашых мас-медыях пераважаў абсалютна станоўчы вобраз Аляксандра Лукашэнкі, гэткага дбайнага, уважлівага гаспадара, які трымае ў сваіх руках усю сітуацыю, - адзначае дырэктар УЦВГД **Юрый Лявада**. - Некаторым падавалася, што гэта прыклад і для Расеі. Расіяне няблага ўспрынялі б дзеяча, які б меў некаторыя рысы Лукашэнкі. Што мы і ўбачылі. Становішча ў Беларусі ўвасабляе адзін з бакоў рускіх традыцыяў, нашу палітычную неразвітасць, пасіўнасць, наш гістарычны патэрналізм, і адваротны яго бок - халопства. Гэтую мадэль вельмі цяжка рэалізаваць у вялікай, складанай і раз'яднанай Расеі, але, выявілася, куды прасцей у параўнальна маленькай, не вельмі разнастайнай Беларусі.

Сваю трактоўку стаўлення расіянаў да падзеяў у Беларусі дае **Леў Гудкоў**, загадчык аддзела сацыяльна-палітычных даследаванняў УЦВГД:

- Расіянаў, вядома, непакояць паведамленні наконт парушэння правоў чалавека ў Беларусі, ціск палітычнай апазіцыі, але гэта ўсё адыходзіць на другі план з-за відавочна выказваемай сімпатыі да Лукашэнкі, як да прыхільніка гэтай палітыкі аднаўлення СССР, прынамсі, адраджэння Саюза. Усе савецкія комплексы, на якіх спекулюе Лукашэнка, праяўляюцца і тут, у расіянаў. Не будзем мець нейкіх ілюзіяў у дачыненні да ўласнай краіны. Яна не надта далёка адышла ад беларусаў, а Беларусь заўсёды адрозніваліся найбольш прасавецкімі і антырэфармацыйнымі настроямі. Не бянтэжыць ні дэмагогія, ні фігура Лукашэнкі, але ён робіць, сапраўды, нацыянал-папулісцкія жэсты і ў бок праваслаўнай царквы, і ў бок былой велічы, і сяброўства з Пуціным, і наогул, педалюе гэтую савецкую вялікадзяржаўную тэму.

Па просьбе Радыё Свабода Усерасейскі цэнтр вывучэння грамадскай думкі спытаў у расіянаў: «Ці лічыце вы Украіну замежжам?». 65 працэнтаў апытаных не схільныя так думаць, і толькі 30 працэнтаў палічылі Украіну замежнай краінай. Прыкладна такая ж карціна назіраецца і ў дачыненні да Беларусі. Адпаведна меркаванням сацыёлагаў, тут шмат у чым адбіваецца інэрцыя савецкіх часоў.

- Гэта імкненне нашых патрыётаў у двукоссі казаць, напрыклад, пра Украіну, яе незалежнасць у іранічным і крытычным ключы, з некаторым нават здзекам, - гаворыць **Юрый Лявада**. «Падумаеш, такія ж людзі як мы, а вырашылі строіць з сябе асобную краіну, нібыта ў іх ёсць асобная мова, нейкая гісторыя...» Гэта стварае хвалю ў адказ. Тыя, што нядаўна сталі незалежнымі, спрабуюць стварыць уласную гістарычную міфалогію і, безумоўна, яны допускаюць шмат спрашчэнняў, недарэчнасцяў. Ва ўмовах вось гэтага непрызнання з расейскага боку ўзнікае імкненне падкрэсліць як бы падвойнай рысай асаблівасць, да прыкладу Украіны. Гэта стварае сітуацыю ўзаемна недарэчную, канфрантацыйную, і гэта непрыемны бок таго пытання, што маса людзей, палітыкаў разам з імі не ўмее і не жадае бачыць таго, што гэта, пры ўсёй гістарычнай звязнасці, сёння розныя дзяржавы.

**А Леў Гудкоў** падкрэслівае:

- Галоўныя задачы, якія ставіцца перад кіраўніцтвам краіны, - гэта аднаўленне былога прэстыжу, але не зблізненне з Захадам, з дэмакратычнымі краінамі. І, увогуле, адаптацыя да зменьнай ролі Расеі ў сучасным свеце. Ніхто не хоча прызнаць новае становішча рэгіянальнай дзяржавы, даволі слабаразвітай, і тое, што ёй трэба будзе заніцца сабою, вырашыць свае ўнутраныя складанейшыя праблемы, а не сумаваць аб мінулай імперыі.

Паводле дадзеных Усерасейскага цэнтра вывучэння грамадскай думкі, многія жыхары краіны мяркуюць, што Расея зацікаўленая ў нейкіх асобых адносінах са славянскімі краінамі. Гэтае пытанне было зададзена расіянам таксама па просьбе Радыё Свабода. І на першым месцы ў спісе гэтых краінаў стаяць былыя браты па Савецкаму Саюзу - Украіна і Беларусь. Аднак адносіны да гэтых дзвюх дзяржаваў розныя. Пра адну з версіяў такіх адносінаў, што бытуе ў масавай свядомасці расіянаў, расказвае **Аляксей Левінсон**, загадчык аддзела якасных метадаў УЦВГД:

- Украіна - гэта краіна, якая імкліва становіцца чужой. Нават яшчэ да таго, як яна павярнулася тварам да Захаду, яна ўжо ў свядомасці некаторых людзей павярнулася да нас спіною. На Украіну ёсць адчувальная крыўда. На тле такіх узаемаадносінаў з Украінай зусім бясхмарнымі выглядаюць стасункі з Рэспублікай Беларусь. Вось яны, беларусы, яны нас ці то любяць, ці то паважаць, ці то баяцца, ці то ім няма куды падзецца. Але, увогуле, ёсць нейкая падстава лічыць, што яны да нас ставяцца добра. І ў адказ узнікае не тое каб любоў, але пачуццё, у якім ёсць кампанент адчаю: усяго і засталася толькі на свеце ў нас адна Беларусь. І вось тады на гэтую адзіную краіну, ці то сябра, ці то саюзніка, ці то сатэліта, ці то «малодшага брата» адразу ўскладаецца безліч усякіх функцыяў, якія раней размяркоўваліся ледзьве не па ўсім Савецкім Саюзе. Выяўляецца, што Беларусь адыгрывае ключавую ролю сярод усіх, наогул, проста ўсіх іншых краінаў. А з гэтага вынікае, што людзі, якія да палітычнага рэжыму таго кшталту, які існуе ў Беларусі, ставяцца крайне крытычна (ва ўсіх іншых выпадках, калі, скажам, гэта рэжым Мілошавіча), у выпадку Беларусі так жа крытычна адгукаліся б. Але, паколькі гэта вось такая адзіная ў нашым распараджэнні карта, то яны гатовыя трываць там рэжым Лукашэнкі.

**Усесаюзнае агенцтва «Інтэрфакс»**

# «Космасам» у Еўропу

**Выдатную магчымасць правесці ўікэнд у Еўропе прапаноўвае гарадзенцам Беластоцкая фірма «Космас».**

Камфартабельным аўтобусам з Беластока вы зможаце за суткі даехаць у Брусель. Маршрут пралягае праз Варшаву, Познань, Гановер, Венло, Эйндховен і Антверпен.

Выезд з Беластока - у 7 гадзін раніцы на польскім часе па пятніцах, прыезд у Брусель - у 7 гадзін раніцы ў суботу. Вяртанне з Брусселю ў 10.30 у нядзелю.

У адзін бок поўны квіток каштуе 250 злотых, што складае прыкладна 60 даляраў. Для студэнтаў і пенсіянераў зніжкі - 220 злотых, або каля 50 умоўных адзінак адпаведна. Дзіцячы квіток каштуе 132 злотых, ці 30 даляраў.

Набываць квіткі туды і назад атрымаецца значна танней. Так, поўны білет у абодва бакі будзе каштаваць 420 злотых, ці каля 100 даляраў. Ільготны, для студэнтаў і пенсіянераў, - 380 злотых (што каля 90 даляраў) і дзіцячы квіток ў два бакі абыдзецца ў 230 злотых, або каля 50 даляраў.

Тэлефон для даведак: 8-0296-74-08-93.

**Алесь Зарэмбюк**

# Новы амбасадар Нямеччыны Фрык «перапоўнены інфармацыяй пра Беларусь»

**Ужо на гэтым тыдні амбасаду Нямеччыны ў Беларусі ўзначаліць новы амбасадар. Наша карэспандэнтка атрымала некаторыя звесткі адносна новага нямецкага амбасадара.**

Спадара Вінкельмана зьменіць спадар Вільгельм Фрык. Прадстаўнікі нямецкіх колаў, якія актыўна супрацоўнічаюць з Рэспублікай Беларусь, ужо мелі шэраг сустрэчаў са спадаром Фрыкам і выказаліся наступным чынам: «Гэта вельмі ангажаваны дыплямат».

Паводле словаў аднаго з аналітыкаў, «гэты чалавек больш чым «перапоўнены» інфармацыяй пра беларускую сытуацыю». Вельмі важны момант, на які зьвяртаюць увагу нямецкія палітолягі: за плячыма Вільгельма Фрыка - досьвед працы ў краінах Усходняй Эўропы, а гэта значыць, «дакладнае веданьне сацыялістычных мэханізмаў», вельмі неабходнае ў сучасных беларускіх умовах.

Вільгельм Фрык нарадзіўся ў 1939-м годзе ў заходняй частцы Нямеччыны, атрымаў адукацыю юрыста. Фрык зьяўляецца кар'ерным дыпляматам - доўгі час працаваў у Міністэрстве замежных справаў Нямеччыны, па тры гады ў амбасадах Нямеччыны, Румыніі ды Польшчы, валодае румынскай і польскай мовамі.

Цяперашняе прызначэньне на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара - самы высокі пункт у ягонай кар'еры. Адначасова гэта таксама і апошняе прызначэньне. Праз тры гады спадару Фрыку будзе 65 гадоў - пэнсійны, паводле нямецкіх законаў век, і ягоная дзяржаўная служба будзе аўтаматычна спыненая.

Нямецкія аналітыкі, якія апошнім часам гутарылі зь Вільгельмам Фрыкам, сьведчаць, што новы амбасадар Нямеччыны ў Беларусі дэманструе сваю поўную пераемнасьць папярэдняй замежнапалітычнай лініі. Гэта ўмацаваньне добрасуседзкіх сувязяў, заходзячы з умоваў рэальнай палітычнай сытуацыі.

Некаторыя нямецкія аналітыкі называюць Фрыка асобай, блізкай да іншага нямецкага палітыка - Ханса-Гэорга Віка. Хаця, у свой час, тое ж самае казалі пра Хорста Вінкельмана. Паводле некаторых іншых дасьведчаных нямецкіх крыніцаў, апошнім часам нямецка-беларускія стасункі атрымалі пэўнае развіцьцё менавіта «дзякуючы» Х.-Г.Віку. У розных колах яго ўспрымалі больш як нямецкага дыплямата, чым прадстаўніка АБСЭ. Асоба Ханса-Гэорга Віка дамінавала, і на гэтым тле актыўнасьць нямецкай амбасады выглядала слабейшай. Як у гэтым зьвязку праявіць сябе спадар Фрык - пытаньне, якое задаюць зараз многія нямецкія аналітыкі.

**Алена Панкратава, Радыё Свабода**

# Запрашаюць у Нямеччыну - па навуку!

**Амбасада Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь паведамляюць, што Нямецкая служба акадэмічных абменаў (DAAD) абвяшчае конкурс для беларускіх навукоўцаў, асобаў, якія маюць вышэйшую адукацыю, аспірантаў і студэнтаў на спаборніцтва па атрыманню стыпендыяў для стажыроўкі ва універсітэтах Германіі ў 2002-2003 навучальным годзе.**

*У конкурсе могуць прымаць удзел:*

1) асобы, якія маюць вышэйшую адукацыю, і аспіранты не старэйшыя за 32-гадовы ўзрост, што займаюцца навуковай (а таксама выкладчыцкай) дзейнасцю ў вышэйшай навучальнай установе ці навуковай установе па ўсіх навуковых дысцыплінах, уключаючы музыку, выяўленчае мастацтва, архітэктуру, дызайн, кінамастацтва і медыцыну (стыпендыя на тэрмін да 10 месяцаў);

2) студэнты 2-4 курсаў, якія вывучаюць германістыку *(стыпендыя на адзін семестр)*;

3) студэнты 3-га курса, якія вывучаюць эканоміку *(стыпендыя на 10 месяцаў)*;

4) студэнты 3-4 курсаў, асобы не старэйшыя за 32-гадовы ўзрост, якія маюць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці германістыка, а таксама асобы з іншымі спецыяльнасцямі, што маюць дачыненне да Германіі *(4-тыднёвыя летнія курсы)*;

5) юрысты не старэйшыя за 30-гадовы ўзрост, якія спецыялізуюцца ў галіне міжнароднага права, што скончылі вучобу і маюць двухгадовы досвед працы па спецыяльнасці *(стыпендыя на 10 месяцаў)*;

6) маладыя навукоўцы і аспіранты ўсіх спецыяльнасцяў, не старэйшыя за 32-гадовы ўзрост, якія маюць вышэйшую адукацыю і займаюцца навуковай працай *(стыпендыя на тэрмін ад аднаго да шасці месяцаў)*;

7) асобы, якія маюць навуковую ступень (без абмежавання ўзросту), што займаюцца навуковай працай у вышэйшай навучальнай установе ці навуковай установе па ўсіх навуковых дысцыплінах *(стыпендыя на тэрмін ад аднаго да шасці месяцаў)*;

8) студэнцкія групы адной спецыяльнасці (максімальная колькасць - 20 чалавек) у суправаджэнні, як мінімум, аднаго выкладчыка з мэтай азнаямляльнай паездкі *(стыпендыя на тэрмін ад сямі да 14 дзён)*;

9) студэнцкія групы адной спецыяльнасці (ад 5-ці да 20 студэнтаў) у суправаджэнні выкладчыка з мэтай вучэбнай практыкі *(стыпендыя на тэрмін ад сямі да 28 дзён)*.

**Дадаткова выдаткоўваюцца** стыпендыі па праграмах 2,4,7 для этнічных немцаў (прадстаўнікоў нямецкай нацыянальнай меншасці). Працэдура ўдзелу ў конкурсе такая ж, як і для іншых прэтэндэнтаў.

Спаборнікі на атрыманне стыпендыяў па праграмах 1-5 перад здачай дакументаў павінны прайсці тэст на веданне нямецкай мовы. Каб прайсці тэст, неабходна загадзя пракансультавацца ў лектараў DAAD спадарыні Керстын Мюлер, спадара Петэра Альпека, спадара Тобіяса Кнубена, спадарыні доктара Лідзіі Мархоф.

**Часы прыёму лектараў DAAD:**

**спадарыня Керстын Мюлер** - па серадах, з 14.00 да 16.00, ва аўдыторыі В-409 у Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, *г.Менск, вул.Захарава,21;*

**спадар Петэр Альпек** - па аўторках, з 15.00 да 17.00, у пакоі 301 Беларускага дзяржаўнага універсітэта, *г.Менск, праспект Ф.Скарыны,4;*

**спадар Тобіяс Кнубен** - па чацвяргах, з 16.00 да 18.00, у пакоі 220 Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, *г.Менск, вул. П.Броўкі,3а;*

**спадарыня доктар Лідзія Мархоф** - па пятніцах, з 17.00, у пакоі 403 Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, *г.Гродна, вул.Ажэшкі,22.*

**Тэрмін падачы дакументаў** на спаборніцтва па атрыманню ўсіх стыпендыяў, апрача праграмаў 5,8,9, **завяршаецца 30 лістапада 2001 года.** Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь ці лектарамі Нямецкай службы акадэмічных абменаў.

**Бланкі заяваў можна атрымаць пры звяртанні на адрас:**

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь,**

**Менск, вул.Свярдлова,7, пакой 206,**

*спадарыня Л.Кацько, спадар Ю.Белавусаў,*

**Тэл. 226-44-84.**

Прадстаўленне ўсіх праграмаў DAAD адбудзецца **15-га кастрычніка 2001 года ў 14.00** у актавай зале Дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, што **ў Менску па вуліцы П.Броўкі,4, у корпусе II** (станцыя метро «Акадэмія навук»).





# «Дружба» дружбай, а ачкі паасобку

**Дзве паразы атрымалі валейбалісткі гарадзенскага «Нёмана» ў чэмпіянаце Беларусі, які ўзяў старт на мінулых выхадных. З аднолькавым лікам 1:3 гарадзенкі саступілі «Дружбе» з Наваполацку.**

Відавочна, нашым валейбалісткам наканавана ў гэтым годзе весці барацьбу за права застацца ў Вышэйшай лізе. Бо каманду ў міжсезонні пакінулі шэсць вядучых валейбалістак - Марына Яскевіч, Таццяна Абухоўская, Міла Лявонава, Наталля Папуцэвіч, Наталля Антановіч, Вольга Адаменя. На іх месца прыйшла моладзь з ДзСЮШАР імя Льва Сапегі.

Дзвюма перамогамі ў другім туры чэмпіянату Беларусі над жлобінскім «Металургам» - 3:0 і 3:1 адзначыліся валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка».

# Прагляд таленавітай моладзі

**28-29 верасня на стадыёне «Нёман» прайшоў адкрыты чэмпіянат горада Гродна па лёгкай атлетыцы. Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх узроставых групах: першая - 1985/86-га, другая - 1987 гадоў нараджэння і маладзейшага ўзросту.**

## Гарадзенскія пераможцы

Першая ўзроставая група. *Хлопцы.*

**Бег 100 і 200 метраў - Максім Карней (Смаргонь). Скачкі ў даўжыню - Андрэй Раманюк. Скачкі ў вышыню - Валерый Касцюк** (абодва Навагрудак). **Дыск - Раман Мацкевіч** (Ваўкавыск). **Кап'ё - Аляксандр Савань** (вёска Бярозаўка Лідскага раёна).

*Дзяўчаты.* **Бег 100 і 200 метраў - Таццяна Радзівонава. Ядро - Таццяна Мялешка** (Гродна). **Молат - Вікторыя Савіна.**

Другая ўзроставая група. *Хлопцы.*

**Бег 800 метраў - Андрэй Шкулепа** (Ваўкавыск); **1500 метраў - Павал Паўлюк; 110 метраў з бар'ерамі - Дзяніс Плацяжаў** (абодва - гарадзенцы). **Скачкі ў даўжыню. Аляксей Русакевіч** (Смаогонь). **Скачкі ў вышыню - Дзмітрый Бузюк** (Навагрудак). **Ядро і дыск - Аляксандр Юшко** (Ваўкавыск). **Кап'ё - Ігар Махнач** (вёска Бярозаўка Лідскага раёна). **Молат - Аляксандр Пелуць** (Гродна).

*Дзяўчаты.* **Бег 100 і 200 метраў - Ірада Джынгірава. Скачкі ў вышыню - Наталля Бачарыкава** (усе гарадзенкі).



**«Гродна-93» стаяць: Томас Венскунас, Яўген Пустагвар (трэнер), Андрэй Васілеўка, Уладзімір Шарко (капітан), Аляксандр Барысаў (галоўны трэнер «Гродна-93»), Юрый Качан, Кірыл Місючэнка. Сідзяць: Альгеркус Кавалюнас, Юрый Чарняк, Аляксей Пынцікаў, Арсеній Бяссмертны, Дзяніс Коршук.**

# Чарговы Кубак «Гродна-93»

**У панядзелак, 8-га кастрычніка гульнёй з «Калевам» і 9-га з «Хонкай», баскетбалісты «Гродна-93» возмуць старт у Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лізе. З прычыны адсутнасці ў Гродне баскетбольнага паркету, доўгачаканыя гульні чэмпіёна Беларусі ў ПЕБЛ гарадзенскія гледачы ўбачыць не змогуць. Пакуль гарадзенская ўлада вырашае пытанне наконт набыцця паркету, хатнім для гарадзенцаў стане баскетбольны палац у літоўскім горадзе Алітус.**

Тым часам баскетбалісты «Гродна-93» захавалі званне ўладальнікаў Кубка Беларусі. У нядзельнай фінальнай гульні «93-я» перамаглі гомельскі «Спартак-Кандытар». Трэцяе месца заняў баскетбольны клуб «Менск», за які, між іншым, зараз выступае эксгарадзенец Пётр Крышчык.

Адразу пасля пераможнай гульні галоўны трэнер «Гродна-93» Аляксандр Барысаў адказаў на пытанні ПАГОНІ.

***- Аляксандр Аляксандравіч, віншуем з чарговай вікторыяй у Кубку Беларусі! І ўсё ж пераможная гульня не стала для гарадзенцаў лёгкай прагулкай.***

- Асаблівых праблемаў у фінальным турніры наша каманда не адчувала. У тым, што мы пераможам «Спартак-Кандытар», не было аніякіх сумневаў. Задачу перамагчы ў Кубку мы выканалі. Напярэдадзе ў нашай каманды - дэбют у Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лізе. Гульні ў Кубку сталі добрай праверкай дэбютантаў каманды Агеркуса Кавалюнаса, Кірыла Місючэнкі, Томаса Венскунаса.

***- На мой погляд, Томас нешта выпадаў з гульні.***

- Томас у нас толькі тыдзень. Гульнёвыя сувязі ён павінен будзе наладжваць. Час яшчэ ёсць. Будзем над гэтым працаваць.

***- У Кубку не прымаў удзел яшчэ адзін наваабранец «Гродна-93» - Арсеній Кучынскі.***

- У Арсенія ўрачы выявілі лёгкае страсенне мазгоў. Тыдзень ён лячыўся, а з аўторка павінен пачаць трэніравацца.

***- Траўмаваныя таксама Эдуард Прыйма і Алег Квашчук. Яны выйдуць на сустрэчы з «Калевам» і «Хонкай»?***

- Не. Плануецца, што баскетбалісты здолеюць распачаць трэніроўкі толькі напрыканцы кастрычніка. На гэтым тыдні хлопцы перанеслі аперацыі. Для нас гэта значная страта. Бо гэтыя баскетбалісты гуляюць на пазіцыі цяжкага форварда.

***- Ведаю, што павінен узмацніць нашу каманду ў гульнях чэмпіянату ПЕБЛ і 17-гадовы гомелец Уладзімір Верамеенка.***

- Так, у нас існуе дамова з «Спартаком-Кандытарам» наконт удзелу Уладзіміра за нашу каманду ў чэмпіянаце ПЕБЛ. Мы нават ужо ўнеслі яго ў заяўку каманды. Аднак на першы тур ён не паедзе.

***- Якая задача стаіць перад камандай у дэбютным Паўночным чэмпіянаце?***

- Задача трапіць на першым этапе ў чацвёрку мацнейшых, што дасць права захаваць за сабою месца ў гэтым прэстыжным чэмпіянаце. Задача гэтая, калі каманда будзе дэманстраваць добры баскетбол, безумоўна, рэальная. Яна б вырашалася значна лягчэй, калі б мы праводзілі хатнія гульні ў Гродне. А пакуль у горадзе няма паркету, наша каманда змушана праводзіць хатнія сустрэчы ў Алітусе, што можа адбіцца на канчатковым выніку.

***- У чарговы раз я вымушаны задаць Вам ужо традыцыйнае пытанне: калі ўсё ж такі будзе вырашана пытанне з набыццём паркету?***

- Я - трэнер каманды і адказваю за яе падрыхтоўку.

**Гутарыў Дзяніс Курчэўскі**

# Першыя поспехі маладых валейбалістак

**Трэцяе месца заваявалі гарадзенскія валейбалісткі АСДзЮШАР N1 1986 года нараджэння на міжнародным турніры ў Даўгаўпілсе. Нашыя дзяўчаты ўпэўнена прайшлі групавы турнір, у якім з аднолькавым лікам 3:0 па парціях перамаглі каманды з Старагграда, Каўнуса і Вільні. На жаль, у паўфінале гарадзенкі саступілі будучым пераможцам менчанкам 0:3, а ў гульні за трэцяе месца валейбалісткі Гродна зноў жа «пакаралі» Каўнас 3:0.**

*- Аб'ектыўна менская каманда на турніры была мацнейшая,* - адзначае ПАГОНІ **Жана Багаева**, галоўны трэнер нашай каманды. *Мы ж упершыню ў гэтым годзе паўдзельнічалі ў турніры такога ўзроўню. Таму трэцяе месца нашай каманды лічу як добрае.*

Бронзавыя медалі заваявалі: Марына Вінаградава, Ірына Бароўская, Ганна Лапа, Вольга Пегар, Кацярына Шлюк, Маргарыта Шарэйка, Жана Савіцкая.

# Без права на паразу

**Чэмпіянат Беларусі. Вышэйшая ліга 20 тур. «Нёман-Белкард» - «Тарпеда-МАЗ» - 1:0 (Давыдаў)**

Гульнёй з «Тарпеда-МАЗ» гарадзенцы распачалі 4-тураву серыю сустрэчаў з асноўнымі прэтэндэнтамі на ўзнагароды сёлетняга першынства Беларусі. Вынік гэтых супрацьстаянняў павінен даць адказ на рэальнасць заваявання першых медалёў у гісторыі нацыянальнага першынства футбалістамі «Нёмана-Белкарда».

Футбольныя супрацьстаянні «Нёмана» і «Тарпеда» рэдка калі былі відовішчнымі. Пра гэта сведчаць 27 мячоў, забітых камандамі ў 19-ці гульнях. Не стала выключэннем і сустрэча 20-га туру ў Гродне.

Першы тайм цяжка занесці камандам у актыў. Мяч не затрымліваўся ні ў адной, ні ў другой камандзе. Таму да галявых момантаў ля брамы суперніцкаў справы не даходзілі. Усё, што можна ўзгадаць, дык гэта два далёкія ўдары, якія ў брамнікаў «Нёмана» Аляксандра Сулімы і «Тарпеда» Аўрамава складанасцяў не выклікалі.

Падзеі другога тайму паказалі, наколькі высокае майстэрства Сяргея Саладоўнікава падахвоціць футбалістаў на барацьбу. Нагадаем, што большую частку сваіх перамог «Нёман» забяспечваў менавіта ў другім тайме. На 58-й хвіліне лёс гульні вырашыў лепшы снайпер гарадзенцаў і ўсяго чэмпіянату Сяргей Давыдаў. Ужо ва ўласцівай нашаму галеадору манеры - атрымаць мяч у штрафной, абыграць абаронцу і пакласці мяч у далёкі кут брамы - гарадзенец у чарговы раз прынёс так неабходную «Нёману» вікторыю...

Пасля забітага мяча гарадзенцы саступілі ініцыятыву суперніку, спрабуючы злавіць іх на контратаках. І ў іх гэта ледзьве не атрымалася. Пасам праз усё поле Аляксандр Суліма вывеў Кавалёнка на рандэву з Аўрамавым. На жаль, удар нападніка Дзмітрыя прыйшоўся ў брамніка.

Канцоўка гульні адзначылася навалам «МАЗаўцаў» і адбойнай гульнёй «Нёмана».

Відавочна, што перад наступнай выязной сустрэчай з лідарам чэмпіянату бабруйскай «Белшынай» і хатнімі гульнямі з барысаўскім «БАТЭ» ды мозырскай «Славіяй» гарадзенцам неабходна значна ўзмацніць калектыўную гульню. Бо на індывідуальным майстэрстве аднаго Давыдава нават захаваць трэцяе месца «Нёману» будзе вельмі праблематычна. Становучую ролю ў гэтым можа адыграць выплата нашым футбалістам запазычанасці па прэміяльных, якая распачалася ў мінулую пятніцу.

**Аляксандр Зінакоў, Дзяніс Курчэўскі**

## Турнірная табліца

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Белшына (Бабруйск) | 20 | 15 | 3 | 2 | 33-11 | 48 |
| БАТЭ (Барысаў) | 19 | 13 | 2 | 4 | 42-20 | 41 |
| **Нёман-Белкард** | **20** | **11** | **6** | **3** | **33-13** | **39** |
| Дынама (Менск) | 20 | 10 | 5 | 5 | 36-16 | 35 |
| Славія (Мазыр) | 20 | 10 | 4 | 6 | 33-16 | 34 |
| Шахцёр (Салігорск) | 20 | 9 | 5 | 6 | 30-21 | 32 |
| Тарпеда-МАЗ (Менск) | 19 | 9 | 4 | 6 | 25-21 | 31 |
| Днепр-Трансм. (Магілёў) | 20 | 8 | 6 | 6 | 27-26 | 30 |
| Гомель | 20 | 8 | 4 | 8 | 19-20 | 28 |
| Дынама (Брэст) | 20 | 7 | 3 | 10 | 21-28 | 24 |
| Маладзечна-2000 | 20 | 6 | 3 | 11 | 17-38 | 21 |
| Лакаматыў-96 (Віцебск) | 20 | 4 | 4 | 12 | 15-40 | 16 |
| Ведрыч-97 (Рэчыца) | 20 | 2 | 1 | 17 | 11-40 | 7 |
| Нафтан (Наваполацк) | 20 | 1 | 2 | 17 | 10-42 | 5 |

# Чакаемыя «баранкі»

**Балтыйская ліга. І тур.**

Дзвюма паразамі закончыўся выезд баскетбалістак гарадзенскай «Алімпіі» на першы тур чэмпіянату Балтыйскай лігі ў Санкт-Пецярбург. 29 верасня чэмпіёнкі Беларусі саступілі «Балтыйскай зорцы» 65:95, у нядзелю «Хвалі» - 56:79.

Вынік сумны. Аднак, чаго можна было чакаць ад каманды, сярэдні ўзрост якой складае 16 гадоў, у той час як ім супрацьстаялі баскетбалісткі, якія ўжо прыкладна столькі ж гадоў гуляюць на высокім узроўні.

*- Адна Надзея Дрозд у «Адімпіі» гатова гуляць на такім узроўні - каментуе вынік ПАГОНІ галоўны трэнер «Алімпіі»* **Аляксандр Шымкавяк**, *- яе ўпэўненая выніковая гульня ўсё больш захапляе скаўтаў іншых камандаў. Пасля кожнай гульні Надзея мае шмат прапановаў перайсці ў другую каманду. Нядрэнна на турніры выглядала Ганна Мацкевіч. Астатнім пакуль не хапае стабільнасці.*

*У цэлым сустрэчы былі роўнымі. За выключэннем момантаў, калі ў нас былі невялікія спады ў гульні, падчас якіх супернік адрываўся ў ліку. Аднак такога, што нас «збівалі», не было.*

*Галоўная праблема нашай каманды - адсутнасць паўнавартаснай цэнтравой, якая магла б пазмагацца пад шчытом, зняць падбор. А тым баскетбалісткам, якія зараз гуляюць на гэтай пазіцыі, не хапае ўзросту. Нягледзячы на паразы ў абедзвюх гульнях, лічу, што атрымалі вялікую карысць. Дзяўчаты рэальна адчулі свае сілы.*

З 10 кастрычніка «Алімпіі» ў Менску наканавана абараняць званне ўладальніцы Кубка Беларусі, які ў кругавым туры разыграюць шэсць камандаў: «Алімпія», «Беразіна» (Бабруйск), «БелГУД» (Гомель), «Гарызонт-РШВСМ» (Менск), «РВАР» (Менск), «ВАР» (Гродна).

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 26.09.2001 г. Замова 2 759 Наклад 6 934

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарны набор: Ірына Салей
Кампутарная вёрстка: Аляксей Салей